№ 11 (4058)

www.nv-online.info

9 лютага 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На простар, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля



**БЛІЦ**

*Былы міністр абароны самаабвешчанай «Данецкай народнай рэспублікі» **Ігар СТРАЛКОЎ**, які стаў вядомы пад мянушкай **ГІРКІН**, пісьменнік-нацбол **Эдуард ЛІМОНАЎ**, рэдактар сайта «Спутник и погром» **Ягор Прасвірнін**, заснавальнік незарэгістраванай Нацыянальна-дэмакратычнай партыі **Канстанцін Крылоў**, пісьменнік-футуролаг **Максім Калашнікаў** і блогер **Эль Мюрыд (Анатоль Несміян)** стварылі арганізацыю **"Камітэт 25 студзеня"**. Адна з мэт арганізацыі – пачаць «палітыку ўзнаўлення рускага народа ў адной дзяржаве». Яны тлумачаць, што «пры гэтым для нас руския – гэта велікаросы, маларосы і беларусы». Гэта азначае, што ў Расіі з'явілася арганізацыя, якая выступае за ліквідацыю незалежнасці Беларусі.*

**НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ!**

## Дагаджаць ці «разагнаць найхутчэй»?



У мінулую суботу на пазачарговым «вялікім крузе» грамадскага аб'яднання «Беларускае казацтва», якое ўзначальвае экс-кандыдат у прэзідэнты Мікалай Улаховіч, казакі звярнуліся да Аляксандра Лукашэнкі з просьбай дазволіць ім стаць злучэннем тэрытарыяльных войскаў Беларусі.

Было заяўлена, што асноўная статутная мэта аб'яднання – «адраджэнне казацтва ў Рэспубліцы Беларусь на асновах праваслаўя, патрыятызму, служэння Айчыне, адданасці беларускаму народу і яго прэзідэнту». Вось толькі паміж беларускім народам і рускім яны фактычна ставяць знак роўнасці. І просьба аб тым, каб казакам дазволілі стаць тэрытарыяльным войскам, узброіцца, трэніравацца, гэта, мякка кажучы, зварот з падтэкстам.

*"Казацтва не мае гістарычных каранёў на Беларусі, а сённяшнія казацкія арганізацыі – наогул «пятая калона»*, – перакананы доктар гістарычных навук Алесь Краўцэвіч.

*«На Беларусі існавалі так званыя казацкія харугвы – напрыклад, пры дварах магнатаў. Каралеўская гвардзейская казацкая харугва, вялікакняская існавала. Але ў той форме, як гэта прадстаўляе "шайка Улаховіча", гістарычных каранёў гэтая з'ява ў Беларусі не мае. Увогуле гістарычны стэрэатып казака ў Беларусі вельмі негатыўны. Нават нашы ўкраінскія браты, украінскія казакі, якія змагаліся за сваю незалежнасць у XVII стагоддзі, на Беларусі былі акупантамі – гэтую старонку нашай гісторыі не трэба абмінаць. Казакі нас забівалі, рабавалі, палілі гарады. І само паняцце "казак" у беларускай гістарычнай свядомасці выступае як негатыўны тэрмін»*, – падкрэслівае гісторык.

А дзейнасць сучасных так званых казакоў трэба наогул разглядаць як пагрозу незалежнасці Беларусі, лічыць Краўцэвіч.

*«Калі казаць пра казацтва Улаховіча, то гэта чыста расійская "пятая калона". Я лічу, што трэба не даваць ім статус злучэння тэрытарыяльных войскаў, а разагнаць іх як найхутчэй, таму што гэта тыя людзі, якія будуць далучаць нас да Расіі»*, – кажа гісторык.

**Ігар КАРНЕЕЎ.**

**СКАНДАЛ**

## Кітайцы падвялі

У Светлагорску з-за кітайцаў не могуць здаць у эксплуатацыю завод беленай цэлюлозы. Пробны пуск завода быў намечаны яшчэ на кастрычнік мінулага года, у снежні 2015-га ўжо павінен быў пачацца выпуск таварнай прадукцыі. Але будаўніцтва зацягнулася з-за кітайскага падрадчыка, які паставіў несертыфікаваную прадукцыю.

Гаворка ідзе пра некалькі сотняў кіламетраў кабеляў, большая частка якіх не адпавядае нават тым патрабаванням, якія пазначаны самімі кітайцамі ў праектнай дакументацыі.

Паводле меркавання беларускіх чыноўнікаў, што курыруюць будаўніцтва, на дэмантаж ужо пракладзеных несертыфікаваных і ўстаноўку сертыфікаваных кабеляў патрабуецца каля паўгода.

Акрамя таго, да кітайскай кампаніі маюцца прэтэнзіі і з боку "Энерганагляду".

*«Сёння кітайскаму боку выстаўлены штрафныя санкцыі на суму 76 мільёнаў долараў,* – гаворыць Юрый Крук. – *Мы патрабуем вяртання персаналу на пляцоўку і працягу работы"*.

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

**БЕЛАРУСЬ–ПОЛЬШЧА**

## На ўздыме

*У народзе здаўна кажуць, што сусед бліжэй за радню. Вось толькі мы неяк не да ўсіх суседзяў тулімся. Доўгія гады выбудоўвалі аднабаковую палітыку з разлікам на Расію і, нібы тая птушка на адным крыле, высока не падняліся. А значыць, беларуска-польскія адносіны сёння патрабуюць асаблівай увагі.*

Па-першае, гісторыя распарадзілася так, што больш за 400 тысяч этнічных палякаў з'яўляюцца грамадзянамі Рэспублікі Беларусь. Без малога 50 тысяч грамадзян Рэспублікі Польшча належаць да беларускага этнасу. Сотні тысяч грамадзян Беларусі з'яўляюцца нашчадкамі тых беларусаў, якія жылі на тэрыторыі Польшчы ў 1921–1939 гадах. За сто тысяч пераваліла колькасць нашых суайчыннікаў, якія маюць так званую "карту паляка".

Па-другое, беларуска-польская мяжа нясе нашмат больш шырокую функцыянальную нагрузку, чым тая, якая проста абумоўліваецца стасункамі паміж дзвюма звычайнымі дзяржавамі. Маючы працягласць 398 кіламетраў, яна набывае асаблівы сэнс. Гэта – частка мяжы Еўрапейскага Саюза (ЕС), Шэнгенскай зоны, Паўночна-Атлантычнага Альянса (НАТА) з Саюзнай дзяржавай Беларусі і Расіі. Наяўнасць агульнай мяжы прадвызначае прыярытэтную ролю памежных абласцей і ваяводстваў у двухбаковых адносінах. З боку Беларусі размова ідзе аб Брэсцкай і Гродзенскай абласцях, з боку Польшчы – аб Люблінскім і Падляскім ваяводствах.

Па-трэцяе, будучы членам ЕС і НАТА, Польшча выбудоўвае сваю палітыку на беларускім напрамку ў рэчышчы падыходаў гэтых арганізацый. У сваю чаргу Беларусь уваходзіць у Саюзную дзяржаву, Еўразійскі эканамічны саюз, Арганізацыю Дамовы аб калектыўнай бяспецы і, натуральна, звязана абавязкамі ў кожнай з пералічаных структур.

Па-чацвёртае, хоць у абедзвюх краінах яшчэ ў мінулым стагоддзі стартаваў этап постсацыялістычнай трансфармацыі, адпаведныя пераўтварэнні ў іх народнагаспадарчых комплексах адрозніваліся па характары, мэтах і маштабах. Палякі палічылі, што падобную трансфармацыю лепш за ўсё рэалізуе прэзідэнцкапарламенцкая рэспубліка, а беларусы ў пераломны час аддалі перавагу прэзідэнцкай форме кіраўніцтва краінай.

У апошнія гады абодва бакі адчуваюць неспрыяльны ўплыў сусветнай эканамічнай кан'юнктуры. Для айчыннай эканомікі гэты ўплыў адчуваецца вастрэй, чым для польскай.

Прыемна адзначыць, што, як заявіў амбасадар Беларусі ў Польшчы Аляксандр Авяр'янаў, з 2013 года "беларуска-польскія стасункі ўступілі ў фазу паступальнага ўздыму". З нашага боку польскую сталіцу наведалі міністр замежных спраў, намеснік старшыні Савета міністраў, шэраг іншых высокапастаўленых чыноўнікаў. Мы ініцыявалі стварэнне камісіі па эканамічным супрацоўніцтве, і польскі ўрад без прамаруджвання адгукнуўся, надзвычай важная структура запрацавала.

***(Заканчэнне на 5-й стар.)***

**ПОСТАЦІ**

## Нашы заступнікі

Архірэйскі Сабор Рускай праваслаўнай царквы дабраславіў агульнацаркоўнае шанаванне шасці беларускіх святых.

Гэта прападобны Елісей Лаўрышэўскі, прападобны Марцін Тураўскі, свяціцель Міна, епіскап Полацкі, Святы дабраверны князь Расціслаў (у хрышчэнні Міхаіл) Смаленскі, свяціцель Сімяон, епіскап Полацкі, першы епіскап Цвярскі, Святая праведная княгіня Сафія Слуцкая. Раней яны ўваходзілі толькі ў Сабор беларускіх святых.

## Ці варта рэагаваць на такія вар'яцкія заявы?

**Уладзімір КОЛАС, старшыня ініцыятывы «Рада беларускай інтэлігенцыі»:**

– Заявы гэтых маргіналаў і нейкіх незразумелых асоб можна было б ігнараваць, калі б яны не былі своеасаблівым пробным шарам. Мы маем прыклад Украіны, дзе той жа Гіркін адыгрываў вельмі актыўную ролю не без ведама расійскіх улад. Безумоўна, калі б не было таго феномену пагрозы незалежнасці дзяржавы, то можна было б не звяртаць увагі. А так беларускаму боку трэба рэагаваць хаця б на ўзроўні ноты. Трэба звярнуць увагу расійскага кіраўніцтва на тое, што існаванне такіх структур недапушчальна.

**Леанід ДЗЕЙКА, дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання:**

– Мне падаецца, што непараўнальны статус адыёзных фігур Расіі і прадстаўнікоў афіцыйнай улады Беларусі. Таму дастаткова, каб адрэагавалі беларускія грамадскія арганізацыі. Няблага было б, калі б нашы афіцыйныя беларускія ўлады даслалі пэўны знак расійскім, ну, напрыклад, дэпартавалі нейкую адыёзную асобу. Выкінулі ж некалі таго ж Андрэя Суздальцава…

**Паўлюк БЫКОЎСКІ, палітолаг:**

– На маю думку, беларускі бок мусіць рэагаваць, нават нягледзячы на тое, што ў публічнай прасторы гучалі і пацвярджэнні, і абвяржэнні мэт камітэта ў тым, што тычыцца далучэння Беларусі да Расіі. Гэта можа быць заява на ўзроўні прэс-сакратара МЗС. Але калі такія інфармацыйныя ўкіды пакідаць без увагі, то гэта можа мець кепскія наступствы.

**Віталь ПОРТНІКАЎ, украінскі журналіст, палітолаг:**

– Не мае ніякага значэння, што там гавораць стралковы-гіркіны-лімонавы. Яны не з'яўляюцца фігурантамі палітычнага працэсу ў сваёй краіне. Ну, сабралася група вар'ятаў. Дадуць ім загад удзельнічаць у знішчэнні беларускай дзяржаўнасці, яны будуць гэта рабіць. Не дадуць – не будуць. Нейкі там камітэт мы можам стварыць паміж сабой хоць сёння, але дыверсійны атрад, які пайшоў на Данбас, быў створаны не па ўласнай ініцыятыве Стралкова.

З'яўленне такіх камітэтаў сведчыць пра глыбокую дэградацыю часткі грамадскай думкі ў Расіі. Гэта не можа не выклікаць занепакоенасць у суседзяў, бо жыць побач з краінай, дзе па вуліцах свабодна ходзяць гарадскія вар'яты, не вельмі прыемна. Тым больш калі яны не атрымліваюць неабходную ацэнку ні з боку грамадскай думкі, ні з боку праваахоўных органаў.

Заявы такіх стралковых ці лімонавых заслугоўваюць крымінальнага пакарання. Тое, што гэтыя людзі дзейнічаюць і нешта балбочуць, азначае, што яны маюць падтрымку з боку расійскіх спецслужбаў і расійскага кіраўніцтва, якое таксама атручана ядам шавінізму…

**Любоў ЛУНЁВА.**

**НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА**

## Волнуется бабушка Матрена. Нервничает правительство…



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

Население возмущается. Очередной девальвационный обвал белорусского рубля, снижение зарплат, увольнения, работа неполную неделю… Ипэшники чего-то требуют. А что будет, когда белорусы увидят смертельно потяжелевшие жировки по квартплате и услугам ЖКХ за январь?

Переживают все – от простой пенсионерки до президента. Но если бабушку Матрену волнует, купит она завтра кусочек сыровяленой колбаски или обойдется дешевенькой куриной грудкой, то белорусское правительство, полагаю, беспокоит более серьезная проблема – как в очередной раз выкрутиться из долговой западни, в которую попала экономика?

Занимали деньги наши власти всегда, как, собственно, занимают и другие государства. Это нормальная финансовая практика. Только, занимая, надо видеть источники, за счет которых потом будешь возвращать долги. Занимали у правительства России и у российских банков, у МВФ, занимали на европейском рынке путем размещения там облигаций, а также у Китая, Венесуэлы, Азербайджана... Правда, долги отдавали в основном своевременно, хотя иногда, как в случае с Россией, просили о реструктуризации, то есть об отнесении сроков погашения долгов на более поздний период. Но чаще прибегали к рефинансированию заимствований, то есть привлекали новые кредиты, чтобы рассчитаться со старыми долгами.

Так, пиковыми по внешним платежам были 2013-й и 2014 годы. Тем не менее сумели выплатить в 2014 году МВФ почти 1,3 млрд долларов и на сегодня полностью рассчитаться с фондом. Для чего, к примеру, велись долгие переговоры с Россией о том, чтобы все пошлины от экспорта нефтепродуктов, которые сегодня совершенно «обмелели» из-за падения мировых цен на нефть, оставались в белорусском бюджете. Общий объем привлечений внешних заимствований в 2014 году составил немалые 5,2 млрд долларов, а объем погашений – почти 4,6 миллиарда. Отрицательное сальдо долгов, перешедших на 2015 год, составило 637,8 млн долларов.

Внешние заимствования в 2015 году были намного скромнее – 2 млрд 172,9 млн долларов. В том числе: 1 млрд 572 млн – от правительства и банков России, 528,1 млн – от банков Китая, 72,9 млн – от Всемирного банка. Погашения внешнего государственного долга за этот год составили 2 млрд 16,4 млн долларов. Их них вернули: 1 млрд – еврооблигации, 300 млн – правительству России, 353,1 млн – Евразийскому фонду стабилизации и развития (ЕФСР), 147,7 млн – банкам Китая, 75,9 млн – МВФ, 115,2 млн – банкам Венесуэлы, 20,9 млн – Всемирному банку, 3,6 млн долларов – США. Отрицательное сальдо составило 156,6 млн долларов.

Вроде бы в целом все и ничего. Тем более что в текущем году, по прогнозам, нужно погасить по внешнему государственному долгу «каких-то» 1,7 млрд долларов. Но львиную долю этой суммы надо отдать в первом квартале! Белорусские золотовалютные резервы составляют лишь 4,2 млрд долларов, из них ликвидная валюта – порядка 2,2 млрд (остальное – золото, бриллианты и т.п.). Заплатить этой валютой – остаться буквально ни с чем. Значит, необходимо привычное рефинансирование. А два кредита, которые ожидают денежные власти – от МВФ (3 млрд долларов) и от России (2 млрд), до сих пор находятся в подвешенном состоянии.

Еще в декабре прошлого года глава Евразийского банка, который распоряжается ЕФСР, сделал ободряющее заявление: кредит поступит к концу месяца. Потом министр финансов России заявил, что в связи с сокращением госбюджета из-за кризиса в экономике, его правительство берет паузу в деле кредитной помощи своим союзникам по ЕАЭС. По заявлениям белорусских высокопоставленных чиновников, кредит от МВФ «на мази» и вопрос практически разрешается к концу января либо к началу февраля. Но вот на исходе первая декада второго месяца, а денег нет. Тут поневоле занервничаешь. Что касается кредита от ЕФСР, где главным образом российские деньги, то понятно, от кого зависит его выделение. Переговоры премьеров Кобякова и Медведева в Санкт-Петербурге и Лукашенко с Медведевым в сочинских горах имели, вероятно, лишь предварительный, «пристрелочный» характер.

В.Путин, зная щекотливое финансовое положение Беларуси с выплатой долгов, неслучайно тянет резину. Можно сказать, играет на нервах. Понятно, чьих. Путину нужно прояснение позиции белорусского руководства с созданием российской военно-воздушной базы в Бобруйске. Но как на это посмотрит МВФ? Путину надобно, чтобы белорусский лидер консолидировался с российским руководством по санкциям России против Запада и Турции, по антиукраинской позиции, чего Лукашенко не делает. И правильно, на мой взгляд, поступает. Украина – второй торговый партнер Беларуси после России, Турция также занимает важное место в белорусском внешнеторговом обороте. Россияне не теряют интереса и к отдельным белорусским активам. Особенно к предприятиям, работающим на их ВПК, типа МЗКТ.

Не спешит с кредитом и МВФ. Вероятно, его руководство впечатлилось заявлениями Лукашенко о том, что никаких реформ, которые могут представлять опасность для авторитарной белорусской экономики, он не потерпит. А что касается выхода на 100%-ную оплату населением услуг ЖКХ, пассажирского транспорта, ограничения роста зарплаты, чего требует МВФ, – то пожалуйста! Неготовность беднеющего населения к этому не имеет никакого значения.

Пока суть да дело, наши денежные власти также не спали в шапку. Если возникали трудности с заимствованием валюты на внешних рынках, то они стали ее усиленно заимствовать на внутреннем. Только в июле прошлого года они привлекли на внутреннем рынке 1 млрд долларов за счет выпуска и размещения валютных облигаций. В сентябре было заимствовано 220 млн долларов, в ноябре – 486, в декабре – 213 миллионов. Всего за 2015 год один Минфин реализовал валютных облигаций на 1,7 млрд долларов. В результате внутренний валютный долг в 2015 году по сравнению с 2014-м вырос аж в три раза, а общий внутренний государственный долг – в два раза, достигнув 97,4 трлн рублей. К этим заимствованиям привлечено и население. По своим валютным облигациям Минфин предлагает 7% годовых, что существенно выше, чем предлагают банки по валютным депозитам. Нацбанк только в последний день января осуществил два выпуска краткосрочных валютных облигаций на сумму 30 млн евро и 100 млн долларов. Госкомитет по имуществу объявил о распродаже государственных пакетов акций более полусотни предприятий. Один, правда, не столь существенный вопрос: не поздно ли?

Однако заемщикам, особенно населению, необходимо отдавать себе отчет в том, что рассчитаться по рублевым облигациям денежные власти всегда смогут, благо, как говорят, рублевый станок под рукой. А вот по валютным… Из 2137,5 млн долларов внутреннего валютного госдолга в 2015 году было погашено пока 399,5 миллиона. Остаток – порядка 1,7 млрд долларов. Если его добавить к внешнему долгу, то валютный долг денежных властей составит уже 14,1 млрд, или около 26% ВВП. А порог безопасности для Беларуси власти установили 25%, имея в виду внешний госдолг. Но валюту надо отдавать всем заемщикам – и внешним, и своим. И ее не напечатаешь. Более того, отдавать долги придется экономике, находящейся в прогрессирующей рецессии, спровоцированной во многом внешней политикой российского руководства, когда валютные поступления падают изо дня в день. Так, валютные поступления в Беларусь составили в 2015 году 33 млрд долларов, что на 10 млрд меньше (18% ВВП), чем в 2014 году. В общем, наступает момент долговой истины.

Причем никакого мирового кризиса, о чем нам не устает вещать государственная пропаганда, нет. В 2015 году мировой ВВП вырос на 2,4%. ВВП высокоразвитых стран увеличился в среднем на 1,6%, в зоне евро – на 1,5%. Не отстают и наши соседи: в Польше ВВП вырос на 3,5%, а Литва за последние 5 лет прирастала на 3,6% ежегодно. Минусовал ВВП России (-3,8%), на пару с ней ВВП Беларуси (-3,9%), по дальней дуге, ВВП их друга Венесуэлы (-8,2%). Если брать ВВП на душу населения, то эстонец имеет 17.425 долларов, литовец 14.391, поляк – 12.662 доллара. Даже Китай с его полуторамиллиардным населением имеет 8280 долларов на человека против белорусских 5800.

В итоге получается, что Беларусь на расстоянии меньше двух месяцев от суверенного дефолта, если не получим желанные кредиты. Но если и получим, то, как всегда, только первые транши. И не факт, что оба кредита сразу. Поэтому, как видим, нервничает не только население – есть о чем переживать и белорусскому правительству. Пронесет или не пронесет на этот раз?

Дай Бог, чтобы пронесло.

